

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№8(106)

15 ліпеня 2013 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# ЗАБЫТЫ РАЗАМ З ЯЎРЭЯМІ

## Бяспамяцтва і забыццё не маюць нацыянальнасці

Міхась ПЯТРОЎ

***Спадзяюсь, чытачы заўважылі і прачыталі артыкул "Забытыя і занядбаныя", які быў надрукаваны ў мінулым нумары газеты. У ім распавядалася аб тым, як у Магілёўскай вобласці зарастаюць без догляду яўрэйскія могілкі. Але для Клімавічаў гэтая тэма з'яўляецца актуальнай яшчэ па адной прычыне.***

У артыкуле казалася, што захаванасць яўрэйскіх могілак — гэта абавязак не толькі нешматлікіх яўрэяў, але і дзяржавы, а таксама ўсяго беларускага грамадства. Па словах старасты магілёўскай сінагогі Сымона Глазштэйна: «Усё гэта клопат і боль дзяржавы і грамадства. Ратаваць гэта трэба, бо без памяці будучыня будзе пустой і бессэнсоўнай».

Да высноў Сымона Глазштэйна дадам адзін красамоўны факт. У Клімавічах амаль ніхто не ведае, што ў часы вайны на яўрэйскіх могілках былі пахаваны байцы Савецкай арміі. Восенню 1943 года, у верасні, савецкія войскі вызвалілі Клімавічы ад фашыстаў. І калі баі скончыліся, то якраз побач з яўрэйскімі могілкамі размясцілі франтавы перасоўны шпіталь.

За наступныя месяцы – кастрычнік і пачатак лістапада 1943 года – у вайсковым шпіталі памёрлі некалькі салдат і афіцэраў. Праз нейкі час шпіталь паехаў далей, за наступаючымі войскамі. А памёрлых па хуткаму пахавалі там, дзе было зручней. Гэта значыць, на яўрэйскіх могілках, аб якіх ішла размова ў артыкуле "Забытыя і занядбаныя". Такім чынам, можна казаць, што сягоння разам з яўрэямі засталіся забытымі могілкі тых, хто вызваляў горад ад фашысцкай акупацыі. Гэты прыклад сведчыць, што бяспамяцтва і забыццё не маюць нацыянальнасці. Занядбаны стан яўрэйскіх могілак яскрава паказвае, што сапраўды — без памяці будучыня будзе пустой і бессэнсоўнай. Як для яўрэяў, так і для ўсіх астатніх.

P.S. У архівах захаваліся звесткі аб салдатах і афіцэрах, пахаваных восенню 1943 года на яўрэйскіх могілках у Клімавічах. Імянны спіс друкуецца па кнізе "Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Клімавіцкага раёна".



* ВАДАЛАЗАЎ Васіль Мікалаевіч, нарадзіўся ў 1918 г., лейтэнант, камандзір узвода, памёр ад ран 8 кастрычніка 1943 г., магіла №2.

* КОЦІКАЎ Аляксандр Ягоравіч, нарадзіўся ў 1898 г., радавы, памёр ад ран, магіла №1.

* ЛАРЫЁНАЎ Сцяпан Сямёнавіч, памёр ад ран 12 кастрычніка 1943 г., магіла №1.

* ЛЕВАДА Валерый Данілавіч, нарадзіўся ў 1924 г., памёр ад ран 15 кастрычніка 1943 г., магіла №1, рад 3.

* ЛОГІНАЎ Дзмітрый Васільевіч, радавы, памёр ад ран 1 лістапада 1943 г., магіла №11.

* ЛЯВІЦКІ Ягор Іванавіч, нарадзіўся ў 1913 г., радавы, загінуў 25 кастрычніка 1943 г., магіла №7.

* МАРОЗАЎ Іван Андрэевіч, нарадзіўся ў 1925 г., радавы, загінуў 13 кастрычніка 1943 г., магіла №1.

* МАРОЗАЎ Іосіф Міхайлавіч, нарадзіўся ў 1907 г., радавы, памёр ад ран 10 кастрычніка 1943 г., магіла №1.

* СЦЯПУН Леў Іванавіч, сяржант, памёр ад ран 6 кастрычніка 1943 г., магіла №1, з усходу на захад 1-ы рад, 1-е месца.

* ЧАРКАСАЎ Ягор Аляксандравіч, нарадзіўся ў 1924 г., чырвонаармеец, памёр ад ран 16 кастрычніка 1943 г., магіла №1.

* ЯДОНАЎ Сільвестр Стратонавіч, нарадзіўся ў 1897 г., памёр ад ран 8 кастрычніка 1943 г., магіла №1.



# КЛИМОВИЧИ ЛИДИРУЮТ ПО СКЛАДСКИМ ЗАПАСАМ




**Михаил ПЕТРОВ**

***На 1 июня 2013 года складские запасы по всей Беларуси составили 81% среднемесячного объёма производства. В денежном выражении это больше 30 триллионов рублей. Такое количество нереализованных товаров несёт серьёзную угрозу белорусской экономике. Власти полагают, что в ближайшие месяцы удастся разгрузить переполненные склады. В этом их обнадёживает Национальный статистический комитет РБ, заявивший, что рост запасов готовой продукции в стране приостановился.***

Насколько обоснованы оптимистические прогнозы Белстата — станет ясно уже очень скоро. Отметим только, что, по мнению экспертов, ожидать чуда не стоит. Избавиться от накопившейся многомесячной затоваренности за месяц-два никак не получится. К тому же экономика продолжает заполнять складские площади.

Обратимся к статистике по Климовичскому району. В январе в Климовичах было складировано продукции промышленного производства на 43,6 млрд. руб. (65,1% к среднемесячному объёму), в феврале — на 44,5 млрд. (70,5%), в марте — на 49,3 млрд. (74,6%), в апрель — на 55,6 млрд. (82,1%). Недавно Белстат подсчитал показатели за май месяц. За этот период складские запасы на Климовщине выросли до 66 миллиардов рублей (95,3 %). При таких темпах экономическое развитие района оставляет желать лучшего. Это особенно заметно, когда сравниваешь между собой статистические данные из других районов, соседних с Климовичами.

| РАЙОН | Запасы готовой продукции на складах промышленных предприятий за январь-май 2013 года | |
|---|---|---|
| | в млрд. руб. | в % к среднемесячному объёму пром. производства |
| КЛИМОВИЧСКИЙ | 66 млрд. руб. | 95,3 % |
| КОСТЮКОВИЧСКИЙ | 62,3 млрд. руб. | 58,5 % |
| КРИЧЕВСКИЙ | 99,7 млрд. руб. | 78,6 % |
| ХОТИМСКИЙ | 0,5 млрд. руб. | 18,7 % |
| ЧЕРИКОВСКИЙ | 0,1 млрд. руб. | 2,2 % |

# МЕДВЫЦВЯРЭЗНІКІ ПЕРАЙМЕНУЮЦЬ У СПЕЦІЗАЛЯТАРЫ



***У Беларусі рэарганізуюць цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў і медвыцвярэзнікі, паведамляе БелТА. Адпаведны ўказ № 307 «Аб пытаннях удасканалення дзейнасці органаў унутраных спраў Рэспублікі Беларусь» Аляксандр Лукашэнка падпісаў 8 ліпеня.***

***«Прадугледжана рэарганізацыя цэнтраў ізаляцыі правапарушальнікаў і медыцынскіх выцвярэзнікаў і іх пераўтварэнне ў структурныя падраздзяленні органаў унутраных спраў. Пры гэтым медыцынскія выцвярэзнікі перайменаваныя ў спецыялізаваныя ізалятары ў мэтах ліквідацыі негатыўнага ўспрымання папярэдняй назвы. Вызначаны катэгорыі асоб, якія могуць змяшчацца ў гэтыя падраздзяленні, парадак пакрыцця імі выдаткаў на харчаванне і ўтрыманне, статус медыцынскіх работнікаў, якія знаходзяцца ў штаце гэтых падраздзяленняў», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы.***





# КОЛОДЕЦ, КОЛОДЕЦ, ДАЙ ВОДЫ НАПИТЬСЯ…ТЕХНИЧЕСКОЙ

**Александр ВЛАД**

***Координатор кампании «Говори правду» по Климовичскому району Александр Балобин получил из райисполкома ответ на обращение жителей деревни Павловичи по поводу оборудования колодца с питьевой водой. Неожиданно оказалось, что пить эту воду не рекомендуют сами чиновники.***

О ситуации в Павловичах рассказала Ирина Беганкина (сайт zapraudu.info), которая напомнила, что ранее житель деревни Александр Балобин уже передавал в Климовичский райисполком обращение по этому поводу. В обращении говорилось о необходимости навести порядок с колодцем по улице Колхозной. У местных жителей были серьёзные опасения, что колодец непригоден для использования.

И вот получен официальный ответ. Документ подписан первым заместителем председателя Климовичского райисполкома А.П. Судиловским. Он сообщает, что к настоящему времени «источник нецентрализованного обращения (колодец) благоустроен: оборудован навесом, цепью, ведром, забором, скамейкой для ведра, обустроен отмосткой». То, что текущий ремонт был сделан, подтвердил и Александр Балобин.

Но далее в ответе А.П. Судиловского извещается, что «пробы питьевой воды из вышеуказанного колодца не соответствуют требованиям СанНПиГН “Гигиенические требования к источникам нецентрализованного питьевого водоснабжения населения” по мутности». Улучшить состояние питьевой воды не помогли проведённые мероприятия по очистке. Поэтому жителям улицы Колхозной рекомендуют следующее: воду из данного колодца «можно использовать только для технических нужд и для ведения личного подсобного хозяйства». Тут же отмечается, что в связи с этим на колодезный сруб повешена предупредительная табличка «Техническая вода».

Таким образом, власти подтвердили опасения людей о непригодности воды. Более того, у жителей улицы Колхозной даже взяли расписку, что они ознакомлены с тем, что вода не годится для питья или приготовления еды. А в качестве выхода им предложено пользоваться другими водоисточниками — находящимися на расстоянии соответственно 300 и 350 метров колодцем и водозаборной колонкой. Разумеется, подобное решение проблемы было воспринято в Павловичах весьма скептически:

«Ничего, кроме удивления, этот ответ у подписавших обращение жителей деревни Павловичи не вызвал, — говорит Александр Балобин. — Да, колодец отремонтировали, но воду из него пить нельзя. Людям предлагают пользоваться колодцем и насосной колонкой, которые находятся фактически даже не за 300 метров, а за полкилометра от их домов, мы измеряли. Интересно, как 75-летняя пожилая женщина будет обеспечивать себя питьевой водой зимой, когда дороги в Павловичах занесены снегом неделями? Видимо, по мнению чиновников, она будет растапливать снег, как в блокадном Ленинграде. Своеобразное отношение к людям демонстрируют чиновники из Климовичского райисполкома». По словам Александра Балобина, общественные активисты будут продолжать добиваться окончательного решения проблемы с обеспечением людей нормальной питьевой водой.

P.S. Уже в процессе подготовки данного материала в печать мы узнали, что «технический» колодец всё-таки решили почистить ещё раз. Если очистка и хлорирование поможет улучшить качество колодезной воды, то её разрешат использовать как питьевую. Как видим, инициатива граждан подтолкнула местные власти к действиям.

# КАЖДЫЙ 50-Й ЖИТЕЛЬ БЕЛАРУСИ — ОФИЦИАЛЬНЫЙ АЛКОГОЛИК

**Кирилл БУКИН, Салідарнасць**

Свежие данные наркологов шокируют. «На 1 июля 2013 года общее число диспансерных больных с алкоголизмом составляет около 180 тысяч человек. Из числа наблюдаемых больных — около 40 тысяч женщин», – сообщил interfax.by заведующий сектором наркологии РНПЦ психического здоровья Владимир Максимчук.

Таким образом, практически каждый 50-й белорус официально считается алкоголиком. Но это далеко не вся «картина маслом». Ещё около 90 тысяч человек наблюдаются в группе профилактического учёта как употребляющие алкоголь с вредными последствиями, среди них 16 тысяч несовершеннолетних. И, как легко догадаться, далеко не все злоупотребляющие «зеленым змием» попадают на учёт в диспансеры.

Говоря о последствиях употребления спиртных напитков, нарколог проинформировал, что «в 2012 году от случайного отравления алкоголем умер 1851 человек, от причин, связанных с потреблением алкоголя, – 1186 человек, при дорожно-транспортных происшествиях погибло 1317 человек».

Максимчук утверждает, проблема пьянства продолжает оставаться одной из самых актуальных для нашей страны: «Это негативное явление причиняет как обществу в целом, так и отдельным гражданам огромный материальный и нравственный ущерб».

Потребление спиртных напитков в последнее десятилетие, по словам нарколога, приобрело устойчивый и массовый характер: «Уровень потребления алкогольных напитков населением страны продолжает оставаться высоким. Объем потребления спиртных напитков на душу населения с 1995 по 2012 годы увеличился с 6,7 до 11,97 литра абсолютного алкоголя».

Ранее в интервью «Народнай воле» заведующий 21-м наркологическим реабилитационным отделением РНПЦ психического здоровья Владимир Иванов заявил:

– Никто с алкоголизмом у нас не борется. И если вы внимательно прочтёте все эти так называемые программы, то нигде не увидите реального сокращения объёма производства и торговли алкоголем. Есть два основных фактора, которые определяют развитие пьянства и алкоголизма. Это вопрос шаговой доступности (сколько точек продажи алкоголя приходится на душу населения) и удельная цена алкоголя в продуктовой корзинке. Так вот: в Швеции одна точка, торгующая алкоголем, приходится на 23 тысячи человек, в России – примерно на 500-800 человек, в Беларуси – на 180. Что касается цен, то никогда алкоголь не был так дешев, как сейчас…

Так что, все заверения властей, будто бы они объявили войну “зеленому змию”, не подтверждаются на практике. Напротив, складывается впечатление, что нынешнему руководству страны выгодно, чтобы белорусы пили как можно больше спиртного…



# СЕКРЕТ ДОЛГОЛЕТИЯ ОТ НАШЕЙ ЗЕМЛЯЧКИ

Елена ПОЛЯКОВА

***Агриппина Генделева родилась 12 июля 1910 года в деревне Юрьевичи Климовичского района. Глядя на дату её рождения, понимаешь, что в этом июле Агриппине Андреевне будет ни много ни мало — целых 103 года! Свою долгую жизнь она прожила на Смоленщине, в Ершичском и Шумячском районах. Не так давно о долгожительнице и нашей землячке рассказала газета «АиФ-Смоленск». Вот несколько отрывков из её воспоминаний, записанных Михаилом Ефимкиным.***

В свои 103 года Агриппина Андреевна скучает без работы. Сидеть без дела ей непривычно, ведь трудиться ей пришлось с малолетства. Для «АиФ-Смоленск» она вспомнила, как ещё до революции работала батрачкой: «Семья у нас была большая, но мой отец умер, когда мне всего пять лет было. Пришлось рано начать работать, уставала очень. Бывало, идет мать жито жать, а я с ней. Я не могла долго работать, и время от времени мама говорила мне: «Вставай, Ряпинка, а то люди скажут, что Пелагеина дочка гультайка, всё лежит». Как немного подросла, пошла батрачить к зажиточным людям. Летом пасла коров, зимой по дому помогала. Работала за еду, кормили плохо, перекусишь — и снова работать. Никогда досыта не ела».

В 20 лет Агриппина вышла замуж за Фёдора: «Хороший мужик был, душа в душу с ним жили. Ни он меня, ни я его никогда не ревновала. Он в кузне молотобойцем работал. Но налоги непосильные были, на жизнь не всегда хватало, и вот однажды он завербовался на работу в Москву. Через какое-то время я взяла двоих детей и поехала к нему. Дети до этого никогда не видели машин и все время ходили на них кататься, просто садились к шоферам и ездили неизвестно где, пока мы на работе были. В итоге я испугалась, что так потеряю детей, и уехала обратно в деревню. Фёдор вскоре вернулся домой и снова устроился в кузницу. Потом началась война, и его забрали в армию. После войны снова был кузнецом, хозяйство держали. Умер мой Фёдор в 2000 году, 70 лет вместе с ним прожили».

По словам Агриппины Андреевны, во время военного лихолетья ей пришлось выкупать своего Фёдора из плена: «Во время войны он пропал, долго от него весточки не было. Однажды к нам в дом пришел человек, который рассказал, что мой Фёдор в плену в Орше, как и сын этого человека. Он предложил мне поехать в Оршу выкупить их. Мы собрали сало, яйца, мёд, водку и поехали на лошади в Оршу. Увидела я его не в первый день, через забор, когда он пришел за баландой. Со смотрителями удалось договориться. На обратном пути нас чуть было не поймали полицаи. Но дома Фёдор долго не пробыл, к нам подошла линия фронта, и он снова ушёл воевать».

После войны так в колхозе и продолжала работать, детей нужно было поднимать. В общей сложности трудилась 41 год. Чувствовала себя бодро, сено косила лучше, чем многие мужчины. Корову только в 85 лет держать перестала. На вопрос «АиФ-Смоленск», как она проводит свободное время, что любит кушать, отвечала просто: «Всю жизнь я работала, и свободного времени у меня не было, жаль, теперь я так же работать не могу. В прошлом году еще картошку перебирала, а сейчас... пойду к курам, покормлю их или коз попасу, иногда просто на лавочке во дворе сижу, смотрю, чтобы никто чужой в дом не прошёл. Ем я немного, люблю молочное, люблю горячее первое. Всю жизнь я варила в печке капусту, готовила омлет, иногда отваривала сало. До сих пор не понимаю, как можно на газу что-то готовить. Кроме хлеба, в магазине никогда ничего не брала. Колбасу не люблю, вообще не понимаю, что люди в ней находят».

Возможно, в этих простых и незамысловатых правилах жизни кроется секрет долголетия трудолюбивой Агриппины Генделевой. Сама она на этот счёт говорит так: «А чёрт его знает, пульсы в руках бьются, значит, живая. В детстве босыми и голыми ходили и недоедали — всё ничего. За последнее время особых проблем со здоровьем у меня не было. В больнице я была последний раз после войны, когда сына рожала. Давление — 130 на 90. За всю жизнь я никогда плохо ни о ком не отзывалась, наверное, в этом и секрет».

## *НОВОСТИ РЕГИОНА*

### ВЗЯЛИСЬ ЗА МЕДИКОВ

***Прокуратура осуществила проверку ряда учреждений здравоохранения Могилёвщины. В УЗ «Климовичская ЦРБ» выявлены факты нарушения требований делопроизводства по обращениям граждан. Также было отмечено, что здания Климовичской больницы нуждаются в проведении ремонта. В других медицинских учреждениях области правоохранительные органы выявили более серьёзные нарушения. Только за 1-й квартал 2013 года в отношении должностных лиц учреждений здравоохранения возбуждено 15 уголовных дел коррупционной направленности (за весь 2012 год — 8 дел).***

### КУПАНИЕ ЗАПРЕЩЕНО

***На начало июля в Беларуси запрещено купание на 21 пляже. Запрет вынесен из-за несоответствия эпидемиологическим критериям безопасности или неудовлетворительного санитарно-технического состояния зоны отдыха. Месяц назад уже сообщалось, что в связи с этим были введены ограничительные меры в Климовичах. Санитарные службы подтверждают, что эксплуатация пляжа на городском озере в Климовичах до сих пор запрещена.***

### ШКОЛА ДЛЯ ПАП

***В Кричеве на базе районного центра социального обслуживания населения стала действовать папа-школа. Функционирование подобных школ основано на опыте Швеции, где папы-школы существуют уже 20 лет. В Беларуси они впервые появились в 2009 году. Их особенностью является то, что занятия с отцами проводят только мужчины. Как заявляют в Кричевском РЦСОН, сейчас занятия планируется проводить 1 раз в 2-3 месяца. Думается, что уроки будут пользоваться популярностью. Например, в Климовичах имеется несколько десятков одиноких отцов, которые в одиночку растят и воспитывают своих детей.***





# “НЕ СПРЫВЛЯЙКА ЛИСАПЕТ, НИ ЛИТАЙ ЗА МНОЙ УСЛЕД»

## *Ручнік як летапіс народнага жыцця*

**Ясь ГАСПАДАР**

***Ручнік — адна з візітных картак Беларусі, шырока вядомая і глыбока сімвалічная рэч, са сваёй унікальнай гісторыяй, поўнай загадак і таямніц. Ручнік з’яўляецца найкаштоўнейшым здабыткам традыцыйнай беларускай культуры, які адлюстроўвае нацыянальны дух, творчыя памкненні і светапогляд беларусаў. Гэта не проста кавалак палатна, а сапраўдны летапіс народнага жыцця.***

Ручнік суправаджаў беларуса ад нараджэння і да самой смерці. На яго прымалі навароджанага, апускалі труну ў магілу, клалі яго ў дамавіну. Асабліва шмат прыгожа арнаментаваных ручнікоў уключалася ў вясельны абрад — пасаг нявесты мусіў уключаць часам да некалькіх дзясяткаў такіх вырабаў. Ужываліся ручнікі і ў каляндарнай абраддавасці: на Вадохрышча, Тройцу, Юр’е, Купалле і г.д. Ручнікамі аздаблялі покуць у хаце, абразы, крыжы на магілках, скрыжаваннях дарог і асвечаных крыніцах, ахвяравалі ў храмы.

Ручнікі адрозніваліся па сваім прызначэнні. Так, можна вылучыць так званы ўціральнік – ручнік для выцірання рук і твару, таксама падобны да яго меншы па памерах скарач, які прызначаўся для пераносу і выцірання посуду. Але найбольш цікавыя дэкаратыўна-абрадавыя ручнікі – вясельныя, хрэсьбінныя, пахавальныя. Найпрыгажэйшыя сярод іншых відаў ручнікоў – бадай, святочныя набожнікі, што ўпрыгожвалі абразы. Таксама адна з разнавіднасцяў – абыдзеннік, спецыяльна тканы для выканання пэўнага абраду, які выступаў у дадзеным выпадку з ахоўнай функцыяй, засцерагаючы ад розных няшчасцяў (хваробы, засухі, мору жывёлы і інш.).

Творчыя пошукі ткачых, вышывальшчыц праходзілі ў рамках сфарміраванага канона. Ён, аднак, толькі ўказваў напрамак арнаментацыі, але не абмяжоўваў майстрых жорсткай лініяй, дазваляў увасабляць ва ўзоры свой лёс і характар, перажыванні, настрой, памкненні. Зафіксавана вялікая разнастайнасць прыёмаў вырабу і аздаблення ручнікоў, якія змяняліся гістарычна, адрозніваліся ў залежнасці ад рэгіёну. Для вырабу ручніковага палатна выкарыстоўваліся розныя віды ўзорыстага ткацтва: нітовае, бранае, выбарнае, закладное і інш. Важнае месца ў аздабленні беларускага ручніка належыць вышыўцы, таксама багатай па спосабах выканання і арнаменце. З найбольш старажытных — процяг, двухбаковы крыжык, лікавая гладзь. Таксама мела месца афармленне краю ручніка рознымі карункамі, махрамі, кутасамі, тасьмой.

У беларускіх ручнікоў ёсць свая адметнасць — гэта чырвоная аднаколернасць узораў, часам адцененая невялікімі дадаткамі сіняга, пазней чорнага тону ці іншых адценняў. Цікава даведацца, што існавалі характэрныя рысы ручнікоў Магілёўскай вобласці і менавіта Клімаўшчыны. Як зазначаюць навукоўцы, у Падняпроўскім рэгіёне бытавалі зоны з пэўнымі мастацка-стылістычнымі асаблівасцямі. Так, вышыўка Клімавіцкага і Крычаўскага раёнаў мела дакладныя формы строга рытмічных стылізавана-раслінных кампазіцый. У нашай мясцовасці былі распаўсюджаны раслінныя матывы, якія іншы раз дапаўняюцца тыпова канвовымі выявамі коннікаў, птушак, карон, жаночых і мужчынскіх постацей, павучальнымі надпісамі і інш.

Аб адным з клімавіцкіх ручнікоў мне хацелася б распавесці асобна. Патрапіўшыся на вочы падчас выставы мясцовага Дома рамёстваў (ручнік выкарыстоўваўся як дэкаратыўны фон для экспанатаў), ён уразіў мяне сваім незвычайным арнаментам, нават прымусіў усьміхнуцца. Па ўсім відаць, ён адносіцца да савецкага часу, але, на жаль, невядомымі засталіся канкрэтная вёска і прозвішча стваральніка гэтага незвычайнага ручніка. Белая палатніна, упрыгожаная зубчастымі карункамі і чырвона-чорнай вышыўкай крыжыкам. Раслінны арнамент суседнічае з ланцужком фігурак веласіпедыстаў – яны досыць схематычныя, але пазнавальныя. Прысутнасць гэтага, шчыра кажучы, нетрадыцыйнага малюнку, тлумачыць надпіс, вышыты на адным з канцоў палатніны: “Ни паеду я в савет, ня будиш маим милым. Не спрывляйка лисапет, ни литай за мной услед”. Рамантычная лінія яшчэ больш раскрываецца на другім канцы ручніка, дзе паўтараецца той самы эклектычны арнамент (кветкі і веласіпедысты), але надпіс іншы: “Агонь гарит жарка. Любов лучшы агня. Агонь тушать вадою. Любов ничем нильзя”. Як жыва перад вачамі паўстае гісторыя непадзеленага кахання! Дакучлівы кавалер лётае за каханай на сваім жалезным кані (ці то плануе яго набыць), а тая ну ніяк не хоча брацца шлюбам, ды яшчэ здзекуецца… Вось ён, летапіс жыцця з усёй сваёй шчырасцю і непасрэднасцю.




Гэты ручнік захоўваецца ў фондах Клімавіцкага раённага краязнаўчага музея. Дарэчы, усяго тут маецца больш за 60 арнаментаваных ручнікоў, самабытная і рэгіянальная адметнасць якіх вызначаецца адразу. На іх можна пабачыць вышыты чырвонымі і чорнымі ніткамі геаметрычны і раслінны арнамент, выявы чалавека, жывёл і птушак, сюжэтныя карцінкі, а таксама надпісы: пажаданні, павучанні, ініцыялы аўтараў або тых людзей, каму гэтыя вырабы прызначаліся. Яшчэ адна сапраўды ўнікальная калекцыя ручнікоў знаходзіцца ў Лабжанскім школьным музеі Клімавіцкага раёна. Паказальна, што імі зацікавіліся нават у далёкіх Нідэрландах, аб чым сведчаць сувязі Лабжанскай школы з Гістарычным музеям горада Амстэрдама.

Выдатна, што наша пракаветная спадчына не забытая, што робяцца спробы яе захавання, аднаўлення і вывучэння хаця б тых крупіц, якія захаваліся. Гэта вельмі важна для ўсёй нацыі — пошук сваёй культурнай ідэнтычнасці, сваіх духоўных каранёў. Без гэтага немагчымае самаасэнсаванне, станаўленне любога народа, а значыць — і будучыня краіны.



# БЕЛОРУССКИЙ ФУТБОЛ — ИГРА МЕЖДУ ЖЕЛАНИЯМИ И ВОЗМОЖНОСТЯМИ

**Данила МЕСТИЧ**

***Стало известно, что Беларусь собирается подать заявку на проведение в Минске матчей чемпионата Европы-2020 по футболу. Похоже, что некоторым высокопоставленным любителям хоккея захотелось сделать нас ещё и великой футбольной державой. Но к таким амбициям есть ли амуниция?***



Сергей Румас, председатель Белорусской федерации футбола, подтвердил на TUT.BY, что заявленные намерения не шутка: «Мы будем подавать заявку. Давно планировали это сделать». Стало быть, планировали давно, а теперь осталось всего ничего — подать заявку. Но сможет ли Минск принять чемпионат Европы по футболу? Отметим лишь один момент. Сейчас в Минске нет ни одного стадиона, где можно принять футболистов из-за рубежа. Лучший столичный стадион «Динамо» находится на реконструкции, что вынуждает национальную сборную выезжать для встреч с соперниками в областные города.

Предположим, что к 2012 году смогут построить современные спортивные арены. Но изменятся ли за это время к лучшему успехи белорусских футболистов? На данный момент – начало июля 2013 года - Национальная сборная Беларуси по футболу находится на 78-м месте в рейтинге сборных ФИФА (Международная федерация футбола). Для сравнения, каких-то пару лет назад, в 2011 году она имела 36-е место. Регресс очевиден и ничто не указывает на то, что былые достижения могут вернуться. К тому же конкурировать за право проведения чемпионата придётся с Веной, Лондоном, Мадридом, Стамбулом, Берлином, Москвой, Киевом и другими городами. Спортивная инфраструктура там на порядок лучше, чем у нас. Кстати, небесполезно ещё одно сравнение: сборная России по футболу в рейтинге ФИФА на 17-м месте, а сборная Украины — на 28-м месте.

В общем, вышло так, что приоритет ледовых дворцов вышел боком белорусскому футболу. И это легко проследить на любом уровне. Если в Минске нет ни одного приличного стадиона, то что тогда говорить про футбольные поля в провинции. К примеру, в Климовичах о состоянии местного стадиона можно судить по названию статьи в «Спортивной панораме» — «Плачущий» стадион. Неравнодушные климовчане отмечают в этой статье, что половина поля весной и летом заполнена водой, отсутствует нормальная дренажная система, из-за чего и скапливается вода.

Конечно, можно услышать и встречные возражения. Дескать, местные спортсмены, в том числе и футболисты, регулярно пополняют копилку рекордов и побед, так что претензии беспочвенны. Не так давно в старшей возрастной группе на областном этапе республиканских соревнований по футболу «Кожаный мяч» климовичская «Искра» вышла в финал и заняла почётное 3-е место. Или такой факт — юные футболисты из Климовичей собираются участвовать в Международном фестивале детского футбола в Норвегии, где соберутся представители 40 стран.

Об этом мы знаем, но согласитесь, если бы наши спортивные таланты получили возможность тренироваться в гораздо лучших условиях, чем сейчас, то и замахнуться они могли бы на большее. Всё-таки не будем забывать, что даже самые прославленные достижения на мировых чемпионатах и олимпиадах когда-то начинались с любительских результатов на маленьких стадионах и полях.

## СТАРШИЙ БРАТ ИЗНАСИЛОВАЛ И ПЫТАЛСЯ УБИТЬ 12-ЛЕТНЮЮ СЕСТРУ

***О совершении этого ужасного преступления стало известно несколько месяцев назад. В конце весны информационная кампания БелаПАН сообщила, что в Климовичах задержан 20-летний местный житель, которого подозревают в изнасиловании своей 12-летней сестры. По понятным причинам подробности не оглашались. Управление Следственного комитета по Могилёвской области проинформировало БелаПАН, что подозреваемого отправили проходить экспертизу, чтобы определить его психическое состояние. О результатах экспертизы официально сообщили в начале июля.***

На сайте УВД Могилёвского облисполкома 5 июля была размещена следующая информация:

«За покушение на убийство родной сестры арестован 20-летний житель города Климовичи. Злоумышленник состоял на учёте у психиатра с диагнозом «Лёгкая умственная отсталость».

Истекающую кровью 12-летнюю дочку обнаружила мать, когда пришла вечером домой. С резаными ранами рук девочка была доставлена бригадой «Скорой помощи» в центральную районную больницу.

Как выяснили сотрудники следственно-оперативной группы, на школьницу напал родной брат, находящийся в состоянии алкогольного опьянения. Он изнасиловал младшую сестру, а когда та стала говорить, что расскажет обо всём маме, задумал скрыть следы преступления. Он ударил девочку по голове и стал душить, пока она не потеряла сознание. Решив, что сестра умерла, он инсценировал её самоубийство: порезал предплечья и вложил в руку нож.

По результатам комплексной судебной психолого-психиатрической экспертизы молодой человек был признан вменяемым: выявленный ранее диагноз не подтвердился.

Климовчанин обвиняется в совершении трёх особо тяжких преступления против личности: изнасилование, насильственные действия сексуального характера и покушение на убийство».





# АТРЫМАЎ ДЫПЛОМ АГРАРЫЯ — АДПРАЦУЙ 6 ГАДОЎ У ВЁСЦЫ

***Старшыня Савету Рэспублікі Анатоль Рубінаў, наведваючы днямі сельгаспрадпрыемствы Мазырскага раёну, выказаўся за магчымае павелічэнне да 6 гадоў тэрміну абавязковай адпрацоўкі ў вёсцы для маладых спецыялістаў-аграрнікаў. Найперш для тых, хто скончыў сельскагаспадарчыя вучэльні па так званым мэтавым наборы. Як ставяцца студэнты й выпускнікі ВНУ да павелічэння тэрміну абавязковай адпрацоўкі па накіраванні, высвятляў гомельскі карэспандэнт Радыё Свабода (www.svaboda.org).***




Сваю думку наконт шасцігадовага тэрміну абавязковай працы маладых спецыялістаў у вёсцы Анатоль Рубінаў абгрунтаваў так: «Мы павінны дапамагаць замацоўвацца маладым кадрам, і тады сяло будзе жыць».

Ужо цяпер, каб «вёска жыла», выпускнікі сельскагаспадарчых ВНУ, якія накіраваныя на вучобу па так званым мэтавым наборы, мусяць адрабіць па размеркаванні 5 гадоў. Іншыя маладыя спецыялісты — 2 гады.

Малады настаўнік, сёлетні выпускнік універсітэту імя Францішка Скарыны, супраць павелічэння тэрміну адпрацоўкі для каго б там ні было:

«Мне падаецца, што шэсць гадоў — гэта вельмі шмат. Чалавек у любым выпадку будзе прывязаны да аднаго працоўнага месца. І пытаньне кар'ернага росту, стварэння сям'і — гэта як быццам і не для яго. Ён не можа сябе праявіць, раскрыць — яго абавязваюць шэсць гадоў сядзець на пэўнай пасадзе. Мне падаецца, павінны быць нейкія варыянты. (Смяецца.) Не зусім да месца прывязванне да аднаго месца».

Лекарка Галіна пасля заканчэння медуніверсітэту адпрацавала на адным месцы тры гады:

«Мая думка: пасля трох гадоў адпрацоўкі мне хочацца ўжо пераменаў, чагосьці новага. А шэсць гадоў — я ўжо й не ведаю... На адным месцы працаваць шэсць гадоў вельмі цяжка».

Будучая спецыялістка ў галіне медыцыны спадарыня Аліна лічыць, што можна павялічыць на год тэрмін адпрацоўкі толькі ў адным выпадку:

«Калі дзяржава здольная забяспечыць выпускніка добрым заробкам, гарантаваным жыллём, хаця б пакоем у інтэрнаце, бо людзям, урэшце, тры гады трэба недзе жыць, працаваць. А калі не, то лепш пакінуць усё як ёсць».

У аддзеле кадраў абласнога камітэту сельскай гаспадаркі й харчавання прапанову кіраўніка Савету Рэспублікі сустрэлі без асаблівага энтузіязму.

«А што зменіць — 5 ці 6 гадоў? Маладыя спецыялісты, калі яны год адпрацавалі і іх штосьці не задавальняе, яны імкнуцца пераразмеркавацца, з'ехаць дамоў ці яшчэ штосьці. Тут усё залежыць ад гаспадаркі, яе кіраўніка і ад тых умоваў, якія створаныя маладым спецыялістам. Не ўсе ж такія сельгаспрадпрыемствы, як „Зара“ Мазырскага раёну».

Спецыяліст па кадрах кажа, што ў рэгіёне асабліва нестае ветэрынарных лекараў і заатэхнікаў — рэгіён забяспечаны гэтымі спецыялістамі на 50–65 адсоткаў. І калі абітурыентам, якія паступаюць у сельскагаспадарчыя вучэльні, казаць пра павелічэнне тэрмінаў адпрацоўкі, якія і так ужо сягаюць 5 гадоў, то гэта можа мець зусім адваротны вынік:

«Не заўсёды ўдаецца ўгаварыць выпускнікоў школаў і на пяць гадоў адпрацоўкі. Раней жа ў нас было 2 гады, зараз — 5 гадоў. А калі будзе шэсць гадоў, то гэта, мне падаецца, напалохае тых, хто паступае на мэтавае навучанне».

Былы аграном сельскай гаспадаркі Андрэй Кара з вёскі Пранькі Мазырскага раёну, які даўно кінуў працу па спецыяльнасці, мяркуе, што заявы пра падаўжэнне абавязковых тэрмінаў адпрацоўкі вясковых спецыялістаў робяцца без уліку рэальнай сітуацыі ў аграрным сектары:

«Гэта пазбаўляе людзей свабоды. Я ў гэтым бачу элементы вяртання да прыгоннага права».

# АСОБЫ З "П'ЯНАЙ" ТРАЎМАЙ БАЛЬНІЧНЫ ЗА ПЕРШЫЯ ШЭСЦЬ ДЗЁН НЕ АТРЫМАЮЦЬ

Святлана БУСЬКО, Звязда

***У Беларусі зацверджана новае Палажэнне аб парадку забеспячэння дапамогамі па часовай непрацаздольнасці і па цяжарнасці і родах.***

***Асноўная навіна заключаецца ў тым, што цяпер не будзе прызначацца дапамога па часовай непрацаздольнасці ў сувязі з захворваннем або траўмай, прычынай якіх з'явілася ўжыванне алкаголю, наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і іх аналагаў, таксічных або іншых адурманьваючых рэчываў, за першыя шэсць каляндарных дзён часовай непрацаздольнасці .***

***Сярод іншых навацый — павелічэнне перыяду, за які дапамога прызначаецца ў памеры 80% сярэднядзённага заробку, з 6 да 12 каляндарных дзён. За наступныя каляндарныя дні бесперапыннай часовай непрацаздольнасці дапамога будзе прызначацца ў памеры 100% сярэднядзённага заробку.***

***Бальнічны ліст цяпер будзе аплачвацца за каляндарныя дні часовай непрацаздольнасці, а не за рабочыя. Сярэднядзённы заробак для вылічэння бальнічнага ліста будзе вызначацца не за 2, а за 6 каляндарных месяцаў, якія папярэднічаюць месяцу, у якім наступіла хвароба. Сярэднядзённы заробак для вылічэння дапамог і іх памер будзе вызначацца без уліку павелічэння тарыфнай стаўкі (акладу) за шэсць месяцаў, што папярэднічаюць месяцу, у якім з'явілася права на дапамогу, і ў перыядзе часовай непрацаздольнасці або водпуску па цяжарнасці і родах.***

***Дапамога па часовай непрацаздольнасці будзе прызначацца ў мінімальным памеры асобам, за якіх абавязковыя страхавыя ўзносы на сацыяльнае страхаванне выплачваліся менш чым за 6 месяцаў да хваробы. Мінімальны памер бальнічнага ліста такім работнікам складзе за месяц 50% бюджэту пражытковага мінімуму.***





# ЭКСТРАННУЮ ДАПАМОГУ МОЖНА ВЫКЛІКАЦЬ ПА НУМАРЫ 112

Марына НОСАВА, БелаПАН

З 1 ліпеня экстранную дапамогу ў Беларусі можна выклікаць па нумары 112. Пра гэта БелаПАН паведаміў памочнік міністра — прэс-сакратар МНС Віталь Навіцкі.

Паводле яго слоў, новы нумар адкрыты ў дапаўненне да нумара 101 і дзейнічае па ўсёй тэрыторыі краіны. «Калі чалавек патэлефануе па нумары 112, гэта тое ж самае, калі б ён патэлефанаваў па адзіным нумары МНС 101», — растлумачыў прэс-сакратар.

«Сэнс новаўвядзення — гэта, па-першае, нумар экстраннай службы 112 „ушыты" ва ўсе мабільныя тэлефоны, па-другое, гэты нумар выкарыстоўваецца практычна ва ўсіх краінах Еўропы і ў Расіі, па-трэцяе, у Беларусі хутка чэмпіянат свету і замежныя грамадзяне ў выпадках, калі ім спатрэбіцца дапамога, змогуць звярнуцца па нумары, які яны ведаюць», — растлумачыў Навіцкі.

## ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: БОЛЬШ ЗА 13 000 БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ

Праект "Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org", які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, аўдыё і відэа. Усяго размешчана больш за 13 000 розных беларускіх выданняў. А ў раздзеле "Перыёдыка" знаходзяцца ўсе нумары "Клімавіцкай Інфа-Панарамы" за 2012 год.


kamunikat

## ЗАЧЕМ ОТМЕНИЛИ УДОБНЫЙ ПОЕЗД ДО УНЕЧИ?

***На этот вопрос во время прямой линии в газете «Аргументы и Факты в Беларуси» (АиФ №27, 2013) ответил заместитель начальника пассажирской службы Белорусской железной дороги Сергей МАЦКЕВИЧ:***



— Он не был отменен. Речь идет о сокращении?маршрута поезда международных линий №392/391 Гродно-Унеча до Могилёва по инициативе Российских железных дорог в связи с его недостаточной заполненностью при прохождении по территории России. Ранее этот поезд курсировал периодичностью через день из Гродно по нечётным числам и из Унечи по чётным числам. В соответствии с анализом пассажиропотока этим поездом в среднем проезжало от 6 до 12 пассажиров в сутки.

С вводом нового графика маршрут следования данного поезда установлен в сообщении Гродно-Могилёв под номером 634/633. Он отправляется из Минска в 23.07 и прибывает в Могилёв в 5.27; время отправления из Могилёва – 19.09, прибытия в Минск 23.35.

## МИНУТКА ЮМОРА

— Поздравляю! Сразу видно, что ты женился! Прекрасно отглажена рубашка!

— О, да! Это первое, чему жена меня научила.

На светофоре стоят рядом «Запорожец» и крутой «Мерседес». Из «Запорожца» высовывается рука и стучит в стекло «Мерседеса»:

— Мужик, у тебя бумага для факса есть? У меня кончилась, а мне сообщение идёт.

«Мерседес» срывается на красный и уезжает. Его хозяин приезжает в гараж и орёт на механиков:

— Я говорил, чтобы вы мне установили в машину всё, что можно. Какой-то ржавый «Запорожец» факс имеет, а вы мне что подсунули?

Ему тут же поставили факс. Через неделю обе машины встречаются на стоянке у супермаркета. Хозяин «Мерседеса» с довольным видом стучит в стекло «Запорожца»:

— Мужик, а мужик?

Молчание. Снова стук, снова молчание. Наконец из «Запорожца» высовывается голова:

— Ну чё?

— Мужик, бумага для факса нужна? Могу одолжить.

— Ты из-за такой ерунды меня из джакузи вынул?

## КЛИМОВИЧСКИЙ РАЙОН ПОЧТОВЫЕ ИНДЕКСЫ НАСЕЛЕННЫХ ПУНКТОВ

* **Автуховка — 213631**
* **Барсуки — 213609**
* **Борисовичи — 213602**
* **Великий Мох — 213614**
* **Высокое — 213607**
* **Галичи — 213624**
* **Гусарка — 213606**
* **Домамеричи — 213610**
* **Дорогинь — 213608**
* **Звенчатка — 213613**
* **Иванова Слобода — 213619**
* **Киселева Буда — 213612**
* **Красавичи — 213604**
* **Лобжа — 213601**
* **Макеевичи — 213617**
* **Малашковичи — 213623**
* **Милославичи — 213615**
* **Недведь — 213616**
* **Осмоловичи — 213630**
* **Павловичи — 213636**
* **Родня — 213621**
* **Старый Дедин — 213625**
* **Судилы — 213622**
* **Тимоново — 213603**
* **Титовка — 213618**
* **Хотовиж — 213611**






КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр'евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*